# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№16 (260)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БЕЛАРУСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

**Чым далей ад дня галасавання 9-га жніўня, тым больш у інтэрнэце з'яўляецца дакументальных сведчанняў пра масавыя парушэнні пры паслявыбарчым падліку галасоў. Нядаўна з'явілася прызнанне адной з работніц Віцебскага аблвыканкаму. Яна распавяла, як перад датэрміновым галасаваннем у кожны раён вобласці спускаліся лічбы, якія потым павінны быць у выніковых пратаколах.**

Для мяне гэтае сведчанне не новае. Яшчэ пасля выбараў 2010 года адзін з старшыняў камісій у Бешанковіцкім раёне распавядаў мне пра аналагічнае. Сёння гэта парушэнне мае масавы характар. І размаўляць, што у Беларусі 9-га жніўня адбыліся прэзідэнцкія выбары, аніяк не выходзіць.

Менавіта таму і ўзняўся Мінск і іншыя гарады, дзе супраць Лукашэнкі галасавала значна больш паловы выбарцаў. Не менш як 75-80% галасоў у Мінску набрала Святлана Ціханоўская. Вось гэтая падмена галасоў і абурыла мінчукоў, якія ўзняліся на пратэст супраць сфальсіфікаваных вынікаў выбараў. Яны патрабуюць правесці новыя выбары, якія б можна было рэальна пракантраляваць.

Той, хто хацеў бы кіраваць вечна, дакладна ведае, што гэтыя выбары ён з трэскам прайграе. А таму ён спыніўся на адзінай магчымасці застацца пры ўладзе – абапёрся на АМАП і міліцэйскія дубінкі.

І вось ужо трэці месяц гэтыя структуры, якія спецыяльна падрыхтаваныя, каб змагацца са злачынцамі, змагаюцца з сваім народам, разганяюць мірныя пратэсты.

Пры гэтым на беларускім тэлебачанні ўвесь час працягвае ісці прыгожая карцінка пра ўборку ўраджая, поспехі ва ўсіх сферах жыцця. А пратэсты на вуліцах беларускіх гарадоў, па іхняй версіі, праводзяцца нейкай кучкай адмарозкаў.

Але ж па інтэрнэту транслююць іншыя навіны. І тыя навіны яскрава сведчаць, што падтрымкі ў дыктатарскага рэжыму няма, што абсалютная бальшыня маладых беларусаў за змену рэжыма. І штонядзелю на вуліцы Мінску зноў і зноў выходзяць сотні тысяч няскораных беларусаў.

Групку людзей, якія абараняюць старую ўладу, складае частка пенсіянераў. Яны акрамя зомбі-скрынкі ў хаце нічога не маюць. Падтрымлівае рэжым і вертыкаль. Тая, якую стварыў той, хто хацеў бы кіраваць вечна. Бо трапіць туды чалавеку з іншымі поглядамі – немагчыма. Ды і заробкі там такія, што рабочаму чалавеку і не сніліся. Вось таму рэвалюцыя і не можа перамагчы за кароткі час. Але вынікі яе падводзіць рана. Усё зразумела стане праз некіх паўгода.

Відома, што пратэставаць супраць узброеных міліцыянтаў і АМАПу могуць толькі вельмі мужныя людзі. Але яны ў Беларусі з'явіліся, іх вельмі шмат у розных гарадах. Можна сказаць, што менавіта зараз ідзе фармаванне беларусаў як нацыі.

**Г.Станкевіч**

ЗДАРОЎЕ

## COVID — 19 У БЕШАНКОВІЧАХ

**У Беларусі зафіксаваны новы рэкорд падчас другой хвалі каранавіруса. Мінздароўя паведамляе, што за апошнія суткі выяўлена 597 выпадкаў захворвання (учора было 526, пазаўчора — 464).**

Калі такая дынаміка захворвання захаваецца, то праз тры-чатыры дні мы выйдзем на 900 выпадкаў — той узровень, які цягам некалькіх месяцаў трымаўся гэтай вясной.

Тады Бешанковічы з'яўляліся адным з эпіцэнтраў захворвання. Наша бальніца была амаль на 100% загружана хворымі. На сайце Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэту рэгулярна публікавалася інфармацыя аб колькасці захварэлых. Але гэта было даўно.

Сёння ж інфармацыяй пра страшную хваробу ў раёне валодае некалькі чалавек. На сайце Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэту можна знайсці што заўгодна, але толькі не інфармацыя пра COVID — 19. Праўда, там можна яшчэ знайсці артыкул «Што трэба ведаць пра самаізаляцыю? Якім будзе пакаранне за яе парушэнне?» ад 24.04.2020. Але ўся інфармацыя ў гэтым артыкуле безнадзейна састарэла.

Што вядома пра сітуацыю з COVID у Бешанковічах на сёння? Не ведаю як у іншых арганізацыях, а вось у школах раёна сітуацыя вельмі напружаная. Хварэюць і настаўнікі, і дзеці.

Складаная сітуацыя ў СШ № 2 райцэнтра. Спачатку ў верасні там перахварэла большая частка тэхнічных работнікі. Потым захварэлі выхавацелькі ў малодшых класах. Пазней станоўчы вынік аналізаў паказалі некаторыя настаўнікі. Частку з іх адправілі на самаізаляцыю. Пажадаем ім, каб у іх усё было добра.

І ўсё ж: хацелася б атрымаць інфармацыю з першых рук. Чаму маўчаць нашыя ўлады?

**Г.Станкевіч**



### ****

*Можа, і ёсць канстытуцыі,*
*што пішуцца не на вуліцах.*
*Над іхнімі фармулёўкамі*
*плыве кабінетны пах.*
*А нашая канстытуцыя*
*ў дварах і на лесвіцах туліцца,*
*На дахах, на вежах, на комінах,*
*на стэлах і на мастах.*

*Над нашае канстытуцыяй*
*сухі і гарачы вецер:*
*"Не забі", "не хлусі", "не лжэсведчы",*
*"блізкага – палюбі".*
*У ёй свечка і б'е наводмаш туга*
*гефсіманскага веця:*
*На што ты пакінуў, ойча?*
*На што ты мяне пакі…*

*Няшмат на крыжовым дрэве*
*месца для канстытуцый.*
*Тут пішацца хутка і ёмiста,*
*у напрузе дрыжыць рука:*
*"Ня бойся", "ня плач", "не выпрошвай",*
*"не спрабуй азірнуцца",*
*"Ня кідай адных таварышаў",*
*"цісні ў машыне гудка".*

*Можа, у вас – на паперы.*
*У нас – на бінтах і кашулях.*
*Па беламу-беламу полю*
*чырвонаю паласой,*
*Па тратуарнай плітцы,*
*па трансфарматарнай будцы,*
*Па плоцє вакол Акрэсціна,*
*па лоджыях у Баравой.*

*І вам не злічыць Галгофаў,*
*паўстанняў і рэвалюцый,*
*Як не злічыць ніколі вачніц*
*Курапацкіх ям,*
*Дзе мы напісалі навечна*
*артыкулы канстытуцыі,*
*Па якой мы збіраемся выжыць —*
*і жыць насуперак вам.*

**Ганна Севярынец**

САЛІДАРНАСЦЬ

## ПАТРАБУЮЦЬ СПЫНІЦЬ ГВАЛТ

**Больш за 1000 дзеячоў культуры і мастацтва Беларусі падпісаліся пад адкрытым лістом з патрабаваннем спыніць беззаконне і рэпрэсіі, якія ахапілі ўсю краіну і дабраліся да сферы культуры. Сярод падпісантаў ёсць і нашыя землякі з Бешанковіцкага раёну.**

Прадстаўнікі сферы культуры заклапочаныя сітуацыяй у Беларусі і перакананыя, што існы крызіс патрабуе неадкладнага законнага вырашэння, інакш наступствы прававога дэфолту адкінуць нашу краіну назад у развіцці і створаць глебу для самавольства і беззаконня. Адзіным выйсцем ў гэтай сітуацыі з'яўляецца тэрміновае правядзенне паўторных выбараў у адпаведнасці з усімі міжнароднымі стандартамі.

«Мастакі, музыканты, акторы, пісьменнікі, паэты, архітэктары, дызайнеры, фатографы, выдаўцы, стылісты, прадусары, прамоўтэры, навукоўцы і даследчыкі культуры, культурныя актывісты, кіраўнікі творчых аб'яднанняў і калектываў, студэнты і выкладчыкі творчых спецыяльнасцей ВНУ — мы ўсе надзвычай абураныя і катэгарычна асуджаем недапушчальныя ў цывілізаванай дзяржаве факты парушэння закона Рэспублікі Беларусь, неабгрунтавана жорсткі гвалт над мірнымі грамадзянамі з боку сілавых структур і фальсіфікацыю вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», – гаворыцца ў адкрытым лісце.

Падпісанты ліста звяртаюць увагу, што працаўнікоў культуры звальняюць, уносяць імёны ў чорныя спісы непажаданых артыстаў, наўпрост аказваюць ціск, запалохваюць, саджаюць у турмы. Многія дзеячы культуры апынуліся за кратамі.

Прадстаўнікі сферы культуры патрабуюць прызнаць выбары 9-га жніўня несапраўднымі. Таму лічаць, што неабходна правесці паўторныя выбары, але ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі і пры ўмове адстаўкі існага складу ЦВК з прыцягненнем іх да адказнасці. Акрамя таго, падпісанты ліста патрабуюць спынення гвалту, ціску і рэпрэсіяў, аднаўлення на працы ўсіх звольненых працаўнікоў сферы культуры.

У спісе патрабаванняў і іншыя пункты:

«Вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных, а таксама ўсіх грамадзянаў, затрыманых падчас мірных акцыяў, незаконна аднесеных да праяваў супрацьпраўнай дзейнасці.

Спыніць супрацьпраўную дзейнасць працаўнікоў сілавых органаў і правесці праверкі законнасці іх дзеянняў, пачынаючы з моманту збору подпісаў для вылучэння ў кандыдаты ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

Распачаць справу па факце збіцця і зверскіх здзекаў з грамадзянаў, затрыманых падчас мірных дэманстрацыяў. Прыцягнуць да адказнасці кіраўнікоў сілавых структураў, адказных за гвалт, расправы і пагрозы, за ўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё грамадзянаў.

Аказаць паўнавартасную медычную, псіхалагічную, прававую і матэрыяльную дапамогу ўсім пацярпелым ад неправамерных захадаў прадстаўнікоў сілавых структур.

Неадкладна пачаць адкрыты грамадскі дыялог улады з прадстаўнікамі народа на прадмет правядзення сумленных, празрыстых і справядлівых выбараў у Рэспубліцы Беларусь з наступнай перадачай прэзідэнцкіх і ўладных паўнамоцтваў законна абранаму кіраўніку дзяржавы».

Падпісанты адкрытага ліста папярэджваюць, што калі іх не пачуюць, то яны адмовяцца ад прадстаўлення нацыянальных інтарэсаў краіны або адмовяцца ад арганізацыі міжнародных і нацыянальных культурных мерапрыемстваў.

**Белсат**

ПРЫРОДА

# ЗУБР ДАЙШОЎ ДА ВЕРХНЯДЗВІНСКА

**Упершыню ў мінулым годзе гэтага зубра бачылі ў Талачынскім раёне. Сёлета жывёла з'явілася ўлетку яшчэ ў некалькіх раёнах Віцебскай вобласці: Бешанковіцкім, Лепельскім, Чашніцкім, Вушацкім, Полацкім. А ў пачатку верасня яго ўбачылі і ў самім Полацку. А напрыканцы верасня яго бачылі ў аграгарадку Шайтарава Верхнядзвінскага раёна.**

Як паведаміла БТ, у Верхнядзвінскім раёне зубр прыбіўся да статка кароў. "Сваім з'яўленнем лясны волат пастухоў спалохаў, але агрэсію жывёліна не праяўляе, таму работнікі і імя яму далі, і ўжо робяць рэдкія фота. Нагадаем, падобны выпадак адбыўся нядаўна ў Кобрынскім раёне. На гэты раз зубр адышоў ад сваёй кармушкі з салодкімі буракамі амаль на паўсотні кіламетраў.

Карычневы карак волата ў статку чорна-белых кароў відаць адразу. Зубра пастухі ўбачылі на досвітку. Вялізная жывёліна хоць і паводзіла сябе спакойна, але вельмі напалохала пастухоў.

Няпрошаны госць пасецца побач са статкам кароў. На адлегласці яго трымае электраагароджа.

Больш чым суткі зубр не адыходзіць ад статка. Пастухі завуць яго Боркам. З задавальненнем фатаграфуюць волата, але бліжэй чым на 15 метраў да яго на ўсялякі выпадак не падыходзяць.

Чырванакніжнік з'явіўся на тэрыторыі Верхнядзвінскага раёна зусім нядаўна. На самую поўнач краіны волатаў завезлі з Белавежскай Пушчы і лясоў Гродзенскай вобласці. Аднаўленне паўночнай папуляцыі зубра — амбіцыйны праект паляўнічай гаспадаркі «Чырвоны бор» і Нацыянальнай акадэміі навук.

Як правіла, дзікія жывёлы не адыходзяць далёка ад прыкормачных пляцовак. Борка, хутчэй, выключэнне — зараз ён за сорак кіламетраў ад кармушак са збожжам і цукровым буракам.

Зараз у беларускай прыродзе 74 зубры. Яшчэ 38 асобін навукоўцы з «Чырвонага бора» экіпіруюць GPS-ашыйнікамі і позняй восенню таксама выпусцяць у дзікую прыроду. Спецыялісты гавораць: зубр — жывёліна вельмі асцярожная, і сустрэць яго ў дзікай прыродзе — вялікая ўдача."

**А.Тутэйшы**

ЗДАРЭННІ

# ДРУГАЯ ХВАЛЯ COVID-19

**«Асноўнае мерапрыемства, якое нам цяпер неабходна, — сацыяльнае дыстанцыяванне. Хачу падкрэсліць: не ўсе правільна гэта разумеюць. Многія атаясамліваюць сацыяльнае дыстанцыяванне з сацыяльнай дыстанцыяй. Гэта зусім розныя рэчы», — сказала намеснік галоўнага доктара Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Ірына Глінская.**

«Кожны павінен абмежаваць колькасць сваіх кантактаў. Каб сацыяльнае дыстанцыяванне працавала эфектыўна, па-за домам іх трэба паменшыць прыкладна на 75%, на працы — на 25%. І вось тады колькасць заражэнняў можа істотна знізіцца», — адзначыла намеснік галоўнага доктара.

Вірус мае асаблівасць: ён пачынае выдзяляцца да таго, як у чалавека з'явіліся клінічныя сімптомы захворвання. Ёсць людзі, якія з'яўляюцца крыніцай віруса, але пры гэтым не адчуваюць сябе хворымі.

«Таму вельмі важна, каб кожны чалавек ужо цяпер, а не пасля з'яўлення сімптомаў захворвання, абмежаваў свае кантакты.

Найважнейшы момант, які з'яўляецца адной з пазіцый сацыяльнага дыстанцыявання, — гэта захаванне дыстанцыі ў 1,5 м. У тых месцах, дзе немагчыма выканаць гэтую дыстанцыю, абавязкова выкарыстанне масак. Гэта тычыцца, напрыклад, грамадскага транспарту, крамы. «Вядома, варта прытрымлівацца дыстанцыі нават у масцы», - адзначыла намеснік галоўнага доктара.

**БелТА**

ПАМЯТАЕМ!

# ПАМЯЦІ АНАТОЛЯ АКСЕНЦЬЕВІЧА БУЛЫНІ

**Непраходная вякамі твань акружала яго родную бешанковіцкую вёсачку Малы Асавец. З бацькамі і старэйшымі братамі ён падлеткам гараваў на лапіках палёў, параскіданых сярод нявдобіц. Бедна жылося ў пасляваенныя гады. Успамінаючы пра дзяцінства, Анатоль Аксенцьевіч узгадваў, як у працы спасцігаў і назапашваў сялянскі вопыт.**

З бацькам Аксенціем Сымонавічам і братамі Васілём, Уладзімірам і Мікалаем станавіўся ў пакос каля рэчкі Крывінкі. Лоўка трымаў ён у сваіх сялянскіх руках сякеру і пілку, сталярныя інструменты. Мела сям'я Булыняў і свой пчальнік. Праз усё жыццё Анатоль Аксенцьевіч пранёс гэта захапленне. Любіў шчодра частаваць мёдам са сваіх вулляў. Дасканала вывучаў пчалярскую справу і аддаваў гэтаму занятку ўвесь вольны час.

З удзячнасцю ўзгадваў Анатоль Аксенцьевіч і сваіх настаўнікаў з Дабрыгорскай і Ржаўскаўскай школ Бешанковіцкага раёна. Вучнем старэйшых класаў штодзённа адмерваў па грэблі сем кіламетраў, каб дабрацца на заняткі. Першым у Малым Асаўцы атрымаў вышэйшую адукацыю. За паспяховую вучобу ў Беларускім політэхнічным інстытуце меў павышаную стыпендыю.

Іскрынкі запальваліся ў яго вачах, калі ўзгадваў студэнцкія гады ў сталіцы. Кожнае лета з байцамі будаўнічага атрада адпраўляўся на Поўнач. Да восені працавалі на будоўлях. Заробкамі дзяліўся з бацькамі, матэрыяльна падтрымліваў малодшую сястру Веру, якая таксама вучылася ў інстытуце.

Пасля атрымання дыплома інжынера па размеркаванні вярнуўся ў родныя мясціны. Працаваў майстрам, прарабам у Сенненскім БМУ меліярацыі. Энергічнага спецыяліста заўважылі ў аблводбудзе і даверылі ўзначаліць ПМК-28. Малады кіраўнік за кароткі час вывеў калектыў у перадавыя на Віцебшчыне. Памятаю, як тагачасны міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі Беларусі Уладзімір Іосіфавіч Паўлючук амбіцыйнага маладога кіраўніка ставіў у прыклад іншым. Анатоль Булыня смела ўкараняў новыя метады арганізацыі працы, абнаўляў машынна-трактар-ны парк, супрацоўнічаў з навукоўцамі вучонымі навукова-даследчага Інстытута меліярацыі. Ён асабістым прыкладам трымаў дысцыпліну і парадак у калектыве. Гарэў даручанай справай, пастаянна цікавіўся навінкамі гэтай сферы дзейнасці.

У калектыва, якім кіраваў Анатоль Булыня, было чаму павучыцца. На базе ПМК-28, а потым трэста «Полацкводбуд» і абласнога аб'яднання «Віцебскмеліярацыя», якія ён узначальваў, ладзіліся рэспубліканскія семінары па тэхналогіі праўядзення меліярацыйных работ.

Клапаціўся Анатоль Аксенцьевіч і пра малую радзіму. Земляка ўдзячны яму за сотні гектараў абноўленых масіваў на Бешанковіччыне. Старшыня былога СВК «Асавец» Аляксандр Крышын памятае, як на вачах пераўтваралася забалочаная пойма рачулкі Крывінкі, прытока Заходняй Дзвіны. Цяпер тут красуюць хлебныя нівы дзяржпрадпрыемства «Палітаддзелец-Агра». На гэтых палях хлебаробы атрымліваюць стабільныя ўраджаі збожжавых і кармавых культур.

Заўсёды з цеплынёю Анатоль Аксенцьевіч узгадваў сваіх старэйшых братоў. Дзясяткі кіламетраў магістральных каналаў пракладалі яны ў родным раёне. На жаль, кароткім выдаўся іх век…

Дзесяць гадоў узначальваў Анатоль Булыня Беларускі дзяржаўны канцэрн па будаўніцтве і эксплуатацыі меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм «Белмеліяводгас», а затым Дэпартамент па меліярацыі і воднай гаспадарцы Мінсельгасхарча...

Кіраўніка дэпартамента застаць у працоўным кабінеце было складана. Каб дакладна адстойваць сваю думку, вывучаў сітуацыю са станам меліярацыйных аб'ектаў у кожным рэгіёне. Часта яго рашэнні ў штыкі прымалі кіраўнікі рэгіянальных структур. Пасля грунтоўнага аналізу і разгляду варыянтаў далейшай дзейнасці Анатоль Аксенцьевіч пераконваў іх у правільнасці яго погляду...Анатоль Булыня, як сапраўдны прафесіянал, меў сваю думку па важных пытаннях і заўжды рашуча яе адстойваў. Узгадалася, як у час здымак тэлевізійнай праграмы на меліярацыйным аб'екце ў Шчучынскім раёне, дзе працякае спрамленая рачулка Лебяда, на папрок тэлерэжысёра, што меліярацыя дае больш шкоды, чым карысці, Анатоль Аксенцьевіч рашуча не пагадзіўся. Завязалася бескампрамісная спрэчка. Усхваляваны кіраўнік фактамі аргументаваў сваю пазіцыю. Тэлеаператар прафесійна зняў гэта на відэа. Фрагмент ажывіў праграму…

Анатоль Булыня аддаў любімай справе шмат сіл і старання. Ён заслужана адпавядаў высокаму ўзроўню кіраўніка галіны. На грамадскіх пачатках да апошняга дня працаваў у рэдакцыйным савеце навукова-практычнага часопіса «Меліярацыя і водная гаспадарка».

А з якім энтузіязмам заняўся ён вывучэннем рыбнай гаспадаркі, калі яму даручылі кіраваць гэтай галіной! Днямі сядзеў за навуковай літаратурай па рыбагадоўлі. Наладзіў сувязь з вучонымі-рыбаводамі. Ці можа забыць дырэктар ААТ «Вопытны рыбгас «Сялец» Юрый Бажэнаў першую сустрэчу з новапрызначаным кіраўніком галіны Анатолем Булыняй! Прыехаў ён у гаспадарку ў выхадны дзень. Пакуль аглядалі сажалкі, сталічны госць заклапочана гаварыў пра правал: рыбагадоўля была ў глыбокім заняпадзе. Анатоль Булыня шукаў выхад з такога становішча. Дзеля гэтага і прыехаў да аднаго з найбольш вопытных кіраўнікоў. Юрый Міхайлавіч памятае, як Анатоль Аксенцьевіч лавіў кожнае яго слова, слухаў уважліва. Перад развітаннем выказаў меркаванне: рыбагадоўлі ўдзялялася мала ўвагі на дзяржаўным узроўні. Як клятва, запомніліся яго словы, што сур'ёзна зоймецца гэтай важнай справай і забяспечыць свежай рыбай спажывецкі рынак. Абяцанні ад начальства Юрый Бажэнаў неадночы чуў за гады працы ў рыбгасе. Думаў, так будзе і пасля гэтага візіту.

Але неўзабаве адчуў, што новы кіраўнік ад сваіх прынцыпаў не адмаўляўся. Ён напорыста браў кіраванне галіной у свае рукі. З падачы кіраўніка дэпартамента спецыялісты распрацавалі і Урад рэспублікі прыняў некалькі дзяржаўных праграм па развіцці рыбагадоўлі. Па ініцыятыве Анатоля Аксенцьевіча значна пашырыўся асартымент вырошчваемай у штучных вадаёмах рыбы. Упершыню ў рэспубліцы сталі займацца асятровымі і іншымі рэдкімі пародамі. На базе больш буйных рыбгасаў пачалі ствараць перапрацоўчыя цэхі. Дзяржава выдзеліла сродкі на набыццё спецаўтатранспарту для перавозкі жывой рыбы. У сталіцы і буйных гарадах па выхадных сталі ладзіцца рыбныя кірмашы.

Менавіта Анатоль Булыня зблізіў меліярацыю з рыбагадоўляй. Цудоўна атрымалася! Гэта дзякуючы яго намаганням цяпер круглы год можна набыць свежую рыбу. За дзесяцігоддзе кіравання структурным падраздзяленнем Мінсельгасхарча Анатоль Аксенцьевіч паспеў шмат зрабіць на карысць Радзімы. Дзейнасць яго адзначана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і званнем «Ганаровы меліяратар Беларусі»…

Яго паважалі і цанілі ў вытворчых калектывах. Калегі называлі Анатоля Булыню кіраўніком высокага палёту. Такім застаўся ён у памяці людской. Лёс адвёў яму ўсяго 72 гады жыцця. Родная віцебская зямля прыняла яго прах на вечны спачын…

*(скарочана)*

**СБ**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КОЛЬКІ ЯШЧЭ ПРАЦЯГНЕЦЦА РЭВАЛЮЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ?

**Рэвалюцыя, як і развод, з'яўляецца не падзеяй, а працэсам. Улетку 2020 года рэвалюцыя ў Беларусі стартавала. Як доўга яна працягнецца?**




Беларусам трэба будзе навучыцца жыць без уладнай вертыкалі. Гэта задача прынцыпова іншага ўзроўню складанасці. Яна не палітычная, а сацыякультурная.

Так званыя «выбары» паслужылі ў Беларусі трыгерам (падзеяй, якая запускае пэўную эмацыйную рэакцыю), што перавёў беларускае грамадства з паўсоннага стану ў стан палітычнага ўзбуджэння.

Схаваныя на працягу чвэрці стагоддзя праблемы ў лічаныя дні агаліліся. Але адэкватнай мовы іх апісання пры гэтым не ўзнікла ні ва ўлады, ні ў пратэстоўцаў.

**«Мы ведаем, мы разумеем, мы…»**

Адзінае, на што аказалася здольная ўлада з усёй сваёй прапагандысцкай абслугай, — гэта выцягнуць з запаснікаў тэорыю змовы. Да 9 жніўня, з-за адсутнасці празаходняга кандыдата ад апазіцыі, на ролю галоўнага змоўшчыка была прызначаная «наша Расія». «Вагнераўцы», што не зразумела, якім ветрам былі занесеныя ў Сінявокую, аказаліся ў той момант вельмі нават дарэчы. Калі б іх не было, іх варта было б прыдумаць.

5 жніўня ў інтэрв'ю ўкраінскаму журналісту Дзмітрыю Гардону адзіны палітык (АП) прадэманстраваў сваю кампетэнтнасць: «Мы бачылі, з кім яны звязаныя. Мы кантралявалі іх цалкам. Мы ведаем, з кім яны стэлефаноўваліся, адкуль атрымлівалі каманды — з Расіі, хто даваў гэтыя каманды. Мы ўжо бачылі, што тут чымсьці смажаным пахне. Мы разумелі ў кантэксце міжнародных стасункаў, што нам спакойна жыць не дадуць».

Пасля 9 жніўня ўсе гэтыя «мы бачылі», «мы кантралявалі», «мы ведаем» і «мы разумеем» страцілі сваю актуальнасць. Расія, у адрозненне ад Захаду, вынікі «выбараў» прызнала.

Давялося тэрмінова разварочвацца праз левае плячо на 180 градусаў, ды працягваць пры гэтым дэманстраваць гораду і свету сваю кампетэнтнасць: «...мы выразна бачым суб'ектаў гэтага працэсу, іх праваднікоў і памагатых. Тактыка арганізатараў будавалася паводле класічнага амерыканскага падручніку каляровых рэвалюцый. Гэта ўсім вядомы Джын Шарп. Цяпер мы можам азірнуцца назад і дэталёва разабраць усе этапы сцэнару па знішчэнні нашай краіны, якому мы, на шчасце, не дазволілі рэалізавацца, і не дазволім».

**Мы, мы, мы... вось такія мы малайцы!**

Гэты геапалітычны разварот нагадаў мне анекдот пра інжынера, які пераканаўча тлумачыў прычыну росту паказчыка на графіку. Калі ж яму заўважылі, што ён трымае графік дагары нагамі, ён гэтак жа пераканаўча пачаў тлумачыць прычыну зніжэння паказчыка.

Але ад анекдота прапаную перайсці да гістарычнага факта, які я запазычыў з кнігі палітычнага географа Дзмітрыя Арэшкіна «Джугафілія і савецкі статыстычны эпас»: «У 1929 г. СССР рыхтаваўся адзначыць пяцідзесяцігадовы юбілей І.В. Сталіна. Буйному тэарэтыку ваеннай справы Кліму Варашылаву даручаны ганаровы абавязак напісаць артыкул "Сталін і Чырвоная Армія". Ён вельмі стараецца. І, мабыць, ад хвалявання дазваляе сабе недапушчальны для марксіста-ленінца промах. "У І. В. Сталіна, — піша Варашылаў, — памылак было менш, чым у іншых". Трэба ж было ляпнуць такое! Дзякуй богу, тав. Сталін пры ўсёй загружанасці знайшоў час уважліва прачытаць тэкст і выратаваць гісторыю ад скажэнняў, а Варашылава — ад ганьбы. "Клім! Памылак не было. Трэба выкінуць гэты абзац", — па-бацькоўску тлумачыць ён на палях рукапісу».

**Ад прыроднай мудрасці да апоры на народ**

Памылак не было. Іх не было, таму што іх не магло быць. Вось такая жалезная логіка. Гэта на загніваючым Захадзе палітыка — суцэльная чарада памылак. Нам жа з першага дня (варта адлічваць ад 10 ліпеня 1994 года) давялося рухацца адзіна правільным курсам.

Але дзе гарантыя правільнасці курсу? Не буду вынаходзіць ровар. У Беларусі хапае аўтарытэтных спецыялістаў. Старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, доктар эканамічных навук, прафесар, акадэмік Уладзімір Гусакоў — адзін з іх. Сваё бачанне галоўнай асаблівасці беларускага шляху акадэмік не трымае ў сакрэце.

У Беларусі пасля развалу СССР пачыналася ўсё як ва ўсіх: адмова ад грамадскага сектара, насаджэнне прыватных парадкаў, страта кваліфікаваных кадраў, маштабная дэградацыя эканомікі і імклівае падзенне якасці жыцця.

«Пералом, — тлумачыць акадэмік, — наступіў у 1994–1995 гадах, калі прэзідэнтам краіны быў абраны А. Р. Лукашэнка», які коштам неверагодных намаганняў здолеў «спачатку прыпыніць дэградацыю і спаўзанне краіны ў прорву, а затым у гістарычна кароткія тэрміны павярнуць яе развіццё ў стваральнае рэчышча».

Геракл са сваімі 12 подзвігамі тут і побач не стаяў. Але Геракл быў сынам галоўнага з багоў-алімпійцаў Зеўса, у непасрэдным падпарадкаванні якога знаходзіліся неба, гром і маланкі. Максімум, на што герой грэчаскай міфалогіі аказаўся здольны — гэта накіраваць у «стваральнае рэчышча» воды ракі, якая працякала недалёка ад стайні цара Аўгія.

Мерацца характарыстыкамі з антычным героем — справа няўдзячная. Але хто сёння будзе адмаўляць, што Беларусь выклікае зайздрасць у суседзяў? Каму ў наш бурны час спадабаецца донар еўрапейскай стабільнасці, што мірна калышацца ў стваральным рэчышчы?

Аднак многія раілі як мага хутчэй пакончыць са старым укладам. Што ж утрымала АП ад рэформаў, якія вядуць Беларусь да разбурэння, а ў перспектыве — да поўнага знікнення? На думку акадэміка Уладзіміра Гусакова, асабістыя якасці АП. Прывяду далёка не поўны іх пералік: «прыродная мудрасць і інтуіцыя, выключная працаздольнасць і праніклівасць, а яшчэ — апора на народ і велізарны давер народа, які захаваўся да гэтага часу».

**Парадак б'е клас**

Калі трыгер, што спрацаваў 9 жніўня, дазволіў уладзе выцягнуць з запаснікаў старую як свет тэорыю змовы, то ўзбуджанаму грамадству ён дапамог па-новаму зірнуць на палітычныя міфы, якія фарміраваліся чвэрць стагоддзя.

Пра тое, што грамадская свядомасць заражаная міфамі, як кампутар вірусамі, я пісаў неаднаразова. У айчынным міфалагічным эпасе па-за канкурэнцыяй быў міф пра «Плошчу», або міф пра «100 тысяч».

Практыка — крытэр ісціны, і яна міф пра «Плошчу» разбурыла. Вера ў «Плошчу» — гэта вера ў магчымасць за кошт аднаразовага намагання прачнуцца ў іншай краіне. Але так не бывае. Паглядзіце на Украіну. У 2004 годзе «Аранжавая рэвалюцыя» перамагла. Ура, таварышы! Але ці перамагла насамрэч?

Спачатку неабходна ўсвядоміць праблему. Насуперак уяўленням многіх беларусаў, праблема не зводзіцца да змены персоны на вяршыні ўладнай вертыкалі. Вертыкаль — гэта атрыбут мінулага стагоддзя, атрыбут савецкага варыянта індустрыялізацыі з яе масавай вытворчасцю... узбраенняў.

Сучасны дынамічны свет аддае перавагу арганізацыі грамадства не па вертыкалі, а па гарызанталі. Ён не мае патрэбы ў правадырах, здольных, нібы Кашпяроўскі, поглядам спыняць дэградацыю нацыянальных эканомік і падзенне жыцця народаў.

Беларусам трэба будзе навучыцца жыць без уладнай вертыкалі. Гэта задача прынцыпова іншага ўзроўню складанасці, і, па вялікім рахунку, яна не палітычная, а сацыякультурная.

Каб увайсці ў сучаснасць, беларусам хапае чалавечага капіталу (адукацыі). Галоўная праблема — дэфіцыт сацыяльнага капіталу, г. зн. здольнасці да сумесных дзеянняў.

Парадак б'е клас. У якасці ілюстрацыі гэтай ісціны спашлюся на вядомы гістарычны прыклад: сотня французскіх кавалерыстаў не баялася сотні мамелюкоў; трыста французаў бралі верх над такой жа колькасцю мамелюкоў, а 1000 разбівала 1500.

І яшчэ адзін прыклад, гэтым разам запазычаны ў расійскага эканаміста Аляксандра Аузана: «Гэта гістарычна вядомы факт пра тое, як Міхаіл Сперанскі, рускі рэфарматар, вярнуўся з Еўропы і сказаў: "Гасудар, у іх установы лепшыя за нашыя, а ў нас людзі лепшыя"».

Гэта наш выпадак. У іх (ва ўладзе) установы лепшыя. Адзін ЦВК чаго варты! Не ў апошнюю чаргу дзякуючы яму мы сёння маем тое, што маем.

***

*Рэвалюцыя, як і развод, з'яўляецца не падзеяй, а працэсам. Улетку 2020 года рэвалюцыя ў Беларусі стартавала. Як доўга яна працягнецца? Адказ на гэтае пытанне будзе залежаць ад нашай здольнасці ствараць установы — структуры грамадзянскай супольнасці.*

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЗВАРОТ

# БЕЛАРУСЬ АЖЫЛА І АБАВЯЗКОВА ПЕРАМОЖА!

**Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла напісала калонку з нагоды апошніх заяваў уладаў і падзей у Беларусі. Прыводзім яе тэкст цалкам з аўтарскай арфаграфіяй.**

Сілавыя структуры, падпарадкаваныя Аляксандру Лукашэнку, гатовыя страляць у свой мірны законапаслухмяны народ. Пра гэта прамым тэкстам цяпер кажа намеснік міністра Караева.

За чвэрць стагодзьдзя аўтарытарызму ў Беларусі мы, здаецца, маглі б стаць звыклыя да ўсяго. Але я не магу стрымаць свайго шоку і абурэньня гэтай заявай.

Бо адметнасьцю цяперашняга беларускага пратэсту стала неверагодныя мірнасьць і мудрасьць, якія праявіў народ Беларусі. Гэтай мірнасьцю, мудрасьцю, яскравай творчасьцю беларусаў, якія мы бачым увесь гэты час, захапляецца ўвесь сьвет.

Мы, тысячы беларусаў і нашчадкаў беларусаў, раскіданыя па ўсім сьвеце, ганарымся сваёй беларускасьцю цяпер больш, чым калісь яшчэ. Іншыя народы, хто зь няведаньня часам думаў, што беларусы радыя свайму сумнаму лёсу, цяпер глядзяць на Беларусь па-новаму, пера-жываюць за беларусаў і гана-рацца імі.

І тое, што выклікае павагу і захапленьне ўсяго сьвету — тое і выклікае ярасьць і нянавісьць тых, хто ведае, што іхны час незваротна мінуў. Яны могуць колькі заўгодна суцяшаць сябе штучнымі лічбамі з афіцыйных вынікаў выбараў. Яны будуць ненавідзець, будуць хлусіць і пагражаць з тэлевізару, будуць біць і страляць.

Беларускі народ — у кроку ад свабоды. У кроку ад таго, за што змагаліся пакаленьні нашых продкаў, у тым ліку героі Слуцкага збройнага чыну, стагодзьдзе якога мы будзем адзначаць праз крыху больш як месяц.

Усе нашыя малітвы, усе нашыя думкі ў гэтыя дні зь Беларусяй.

Зь Беларусяй — усе нашыя сьлёзы абурэньня жорсткасьцю карнікаў.

Як і нашыя сьлёзы радасьці, калі бачым тысячы і тысячы людзей штотыдзень на вуліцах Беларусі: старых і маладых, жанчынаў і мужчынаў, жыхароў Менску і жыхароў маленькіх мястэчак.

Рэвалюцыя адбываецца перадусім не ў адміністрацыі, а ў душах і сэрцах людзей. Гэтая рэвалюцыя адбылася. Гэтая рэвалюцыя адбываецца штодзень, штораз, як беларусы выходзяць да сябе ў двор, усьміхаюцца сваім суседзям, сьпяваюць, выходзяць разам на марш пад нашым сьцягам — у супольнай радасьці, у супольным узьнёслым пачуцьці прыналежнасьці да сваё зямлі, у супольнай празе справядлівасьці і праўды.

Беларусь ажыла і абавязкова пераможа. Не спыняйцеся, ня бойцеся, і ведайце: за вамі праўда і за вамі ўвесь сьвет ад Эўропы да Канады і Аўстраліі.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**"Новы Час"**

ЕЎРАПАРЛАМЕНТ

# ПА ЎЗРОЎНІ ГВАЛТУ ЎЛАДЫ БЕЛАРУСІ ПЕРАЎЗЫШЛІ ГЕРМАНІЮ 1933 ГОДА Ў ДВА РАЗЫ

**«Тыя зверствы і гвалт, якія дэманструе цяперашняя ўлада ў Беларусі, проста жудасныя і супастаўныя толькі з фашысцкім рэжымам у Германіі 1930-х гадоў», — заявіў кіраўнік юрыдычнай камісіі праваабарончага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» (БХК) Гары Паганяйла, выступаючы 16 кастрычніка ў Еўрапарламенце падчас абмеркавання сітуацыі ў Беларусі, паведамляе «Радыё Рацыя».**

Згодна з ацэнкай Гары Паганяйлы, па ўзроўні гвалту ўлады Беларусі сёння «перавысілі Германію 1933 года ў два разы».

«Улада разарвала дамову паміж грамадствам і дзяржавай, яна не забяспечвае захаванне правоў грамадзян, але пры гэтым дадзеная поўная свабода сілавым структурам. У спробах утрымаць уладу ўрад ідзе на самыя жорсткія і злачынныя метады барацьбы з іншадумствам», — канстатаваў Паганяйла.

Праваабаронца нагадаў, што парайнейшаму не распачата ніводнай справы па фактах прымянення гвалту супрацоўнікамі сілавых структур да ўдзельнікаў дэманстрацый, у той час як у дачыненні да пратэстоўцаў адкрыта ўжо 400 крымінальных спраў. «Гэта проста не паддаецца ніякаму асэнсаванню, — падкрэсліў Паганяйла. — У гэтай сітуацыі мы вымушаныя прасіць Еўрапарламент і ўсе структуры Еўрасаюза прадумаць і прыняць адпаведную пастанову аб пошуку і прымяненні юрыдычных інструментаў, якімі мы маглі б скарыстацца, каб прыцягнуць да крымінальнай адказнасці як індывідуальна супрацоўнікаў сілавых структур, так і арганізацыі».

Прадстаўнік БХК растлумачыў, што гаворка ідзе пра магчымасць «выкарыстання ўніверсальнай крымінальнай юрысдыкцыі». «Гэты інструмент закладзены ў многіх крымінальных і крымінальна-працэсуальных кодэкса краін Еўропы, ЗША, Канады і іншых цывілізаваных краін, якія падтрымліваюць барацьбу са злачынствамі супраць чалавецтва, — сказаў ён. — Пры наяўнасці палітычнай волі, пры наяўнасці жадання ў структур, да якіх мы сёння апелюем, стварыць адпаведныя каардынацыйныя цэнтры для юрыстаў тых краін, дзе можна прымяніць універсальную крымінальную юрысдыкцыю, каб яна пачала дзейнічаць».

У якасці прыкладу Паганяйла адзначыў, што сёння прыблізна 200 беларускіх грамадзян, у тым ліку пацярпелыя ад жорсткасці і гвалту сілавікоў, знаходзяцца ў Літве, Польшчы, Украіне.

«Украіна распачала адну з такіх спраў, Польшча і Літва таксама прадумваюць варыянты, — адзначыў праваабаронца. — Нам бы хацелася, каб гэтая праца прасоўвалася хутчэй, каб мы мелі сур'ёзны інструмент для барацьбы з беспакаранасцю беларускіх уладаў».

«Што гэта дасць? Калі мы здолеем распачаць справы, па якіх будуць выдадзеныя ордэры на арышт і перададзеныя Інтэрполу, то гэта хоць у нейкай ступені можа пацягнуць змену сітуацыі ўнутры Беларусі, — удакладніў праваабаронца. — Многія з сілавога блока зразумеюць, што беспакаранасць заканчваецца, што рана ці позна яны паўстануць перад судом і атрымаюць пакаранне. Вядома, я разумею, што патрэбныя арганізацыйныя і матэрыяльныя намаганні, але гэта таго вартае».

Сённяшнія слуханні ў Еўрапарламенце арганізаваныя камітэтам ЕП па замежных справах і падкамітэтам па правах чалавека сумесна з дэлегацыяй па сувязях з Беларуссю і Парламенцкай асамблеяй Усходняга партнёрства (Еўранест).

**"Радыё Рацыя"**

ЗАЯВА

# "ЛУКАШЕНКО И ЛУКАШИЗМ — АБСОЛЮТНОЕ ЗЛО"

**В ситуации, когда не действует Закон, когда любого могут похитить и убить, искалечить и надругаться, я вынужден обратиться с этим публичным Заявлением. "Я, Павел Знавец, депутат последнего законно-избранного легитимного парламента Республики Беларусь — Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, член Центрального Комитета БСДП(Грамада), заявляю следующее.**

В Республике Беларусь в массовом порядке продолжаются произвольные нападения на мирных граждан со стороны представителей силовых структур. Они сопровождаются избиениями, задержаниями и пытками, которые приводят в том числе к смерти людей.

В настоящее время, попав в отделение милиции, любой гражданин чувствует себя абсолютно бесправным и беззащитным — подобно скотине, которую везут на убой.

В Республике Беларусь практически не действует Закон. Акциями террора и насилия над людьми руководят, как правило, представители особых силовых подразделений МВД и КГБ Беларуси, таких как ОМОН, «Алмаз» и др.

Эти спецподразделения предназначены для борьбы с терроризмом и организованной преступностью. Однако в настоящее время они терроризируют мирное население и используются для жестокого подавления мирных акций протеста, в ходе и после которых мирных граждан и случайных прохожих захватывают либо похищают. Над захваченными и похищенными людьми сотрудники этих спецподразделений устраивают пытки и издевательства. То, что произошло со мной — яркое тому свидетельство.

4 сентября 2020г. примерно около 15 часов по минскому времени группа неустановленных лиц в чёрной камуфляжной форме, в масках-балаклавах, скрывающих их лица, с аббревиатурой «ОМОН» на спине, внезапно выскочила из микроавтобуса, припаркованного у тротуара напротив здания магазина «Алеся» по пр. Победителей, 3 в г. Минске.

Налётчики окружили и прижали к стеклянным витринам здания группу мирных граждан, часть из которых была с флагами, флажками, шариками и другой атрибутикой в цветах национального исторического бело-красно-белого флага Республики Беларусь. Среди окружённых граждан оказался и я.

Люди в чёрной униформе и масках, скрывающих лицо, действовали агрессивно, выхватывали людей поодиночке из толпы и насильно проводили их в стоявший неподалёку микроавтобус. Таким образом и я был задержан….

На велосипеде я прибыл на пр. Победителей в г. Минске 04. 10.2020г, надеясь пообщаться с наиболее активными гражданами Беларуси и подарить им партийные флажки . Это одна из форм партийной работы. Как депутат последнего легитимного парламента Республики Беларусь — Верховного Совета и как активист Белорусской социал-демократической партии я знал, что по выходным дням в центр г. Минска выходят на прогулки и шествия против фальсификации выборов и узурпации власти бывшим президентом А. Лукашенко сотни тысяч граждан Беларуси с активной жизненной позицией. Я также принадлежу к их числу.

Поэтому я действовал в полном соответствии с Законом, своими убеждениями и даже тем пожеланием, которое как-то публично высказал бывший президент Беларуси А.Лукашенко о необходимости активизировать партийное строительство в нашей стране…

…На моё замечание о том, что флажки с изображением цветка розы и надписью «БСДП» являются официально зарегистрированной в Министерстве юстиции Республики Беларусь символикой Белорусской социал-демократической партии(БСДП), в которой я состою, он грубо толкнул меня лицом в пол микроавтобуса и заломал руки за спину. После этого он достал пластиковую стяжку-жгут и связал мне кисти рук за спиной, причём затянул жгут так, что кровь перестала поступать в ткани ладоней и пальцев рук. Боли в области кистей рук и онемение мягких тканей ладоней я ощущаю до сих пор, т.е. спустя несколько дней после случившегося….

На протяжении всего времени моего нахождения в Советском РУВД г. Минска человеческие субъекты в масках и чёрной униформе руководили всеми действиями в отношении задержанных, угрожая применить силу в случае любого неповиновения, а также командовали находившимся в помещении РУВД иным милицейским персоналом.

Поздно вечером 4 октября 2020г. меня и других задержанных граждан препроводили в автозак для доставки из Советского РУВД г. Минска в изолятор для временного содержания задержанных граждан(ИВС), находящийся на территории тюрьмы в г. Жодино …

В пути следования автозака в г. Жодино в нём произошла какая-то неполадка. Водитель остановил машину для устранения неисправности, забыв при этом выключить двигатель. И я во второй раз чуть было не задохнулся, на этот раз от газа, исходившего от работающего двигателя автозака, который поступал в мой отсек через узкую вентиляционную щель- решетку в потолке. ..

Спустя несколько минут поломку в автозаке устранили, он тронулся с места и в мой отсек через вентиляционную решетку- отверстие в потолке поступил свежий воздух. Теперь я воочию представляю, как задохнулся в автозаке и впоследствии умер при доставке в госпиталь г. Гомеля 25 —летний Александр Вихор.

В тюрьме г. Жодино со мной и другими административно задержанными гражданами тюремные надзиратели обращались как с уголовниками: ставили на растяжку, постоянно кричали и угрожали применить силу в случае малейшего неповиновения. Так, меня и других задержанных граждан, в частности, гнали подобно стаду скота почти бегом по узким, длинной примерно в полкилометра подземным петляющим коридорам тюрьмы, ведущим в помещение ИВС.

…5 октября 2020г. днём в ИВС на территории тюрьмы в г. Жодино после очередных грубых унизительных процедур и стойки на растяжке меня доставили в комнату неподалёку от моей камеры, где и состоялось рассмотрение моего административного дела. Дело рассматривал прибывший из г. Марьина Горка Пуховичского района Минской области судья в присутствии секретаря-женщины.

К моему удивлению, судья повёл процесс корректно: после установления данных моей личности перечислил мои права как участника процесса и т.д. Я этим воспользовался, сделал соответствующее заявление о моём произвольном задержании, фальсификации протокола задержания, который я не подписал и применении пыток, которые едва не закончились для меня смертельным исходом . Судебное разбирательство было отложено и перенесено на 15 октября 2020г., начало процесса в 15 ч. 20 мин. с вручением мне соответствующей повестки.

Вышеописанные преступные, унижающие человеческое достоинство действия сотрудников силовых структур, особенно ОМОНа, являются пытками. Пытки, жестокое и унизительное обращение с людьми применяется в Республике Беларусь в отношении мирных граждан, задержанных, подчёркиваю, не за совершении особо тяжкого преступления, а произвольно либо за совершение административного правонарушения. Такое просто недопустимо в европейском государстве. Этому должен быть положен конец. Бывший президент А. Лукашенко и лица из его окружения, с ведома и при потворстве которых всё это происходит, должны быть немедленно отстранены от занимаемых должностей, арестованы и преданы суду…

После всего пережитого мне уже нет смысла бояться смерти, которая всё равно неизбежно придёт. Но нужно верить в победу Добра над Злом. Лукашенко и лукашизм как система в Республике Беларусь есть абсолютное зло. Поэтому всем ответственным людям нужно осознать, что если в ближайшее время Лукашенко не будет отстранён от власти, это может стать трагедией мирового масштаба. Ведь весь цивилизованный мир, следящий за событиями в Беларуси, увидит и ощутит торжество зла.

…Сегодня моя персональная судьба, как и судьба каждого выходящего на мирный протест беларуса — это в известной степени слепок и отображение будущего Беларуси, Европы и всего цивилизованного мира.

*(скарочана)*

**Павел Знавец.**
**belaruspartisan.by/blogs/znavec**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 18.10.2020 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.